© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша свабода

№80 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 СНЕЖНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



Вайка ногі кормяць

# Прэзідэнцкія выбары могуць прайсці ў сакавіку

Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН

Па звестках з пэўных крыніц, цяперашнім часам у адміністрацыю прэзідэнта Беларусі паступаюць падрыхтаваныя групамі аналітыкаў матэрыялы з прагнозамі развіцця сітуацыі падчас прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца ў 2001 годзе. У іх прапануюцца розныя варыянты тэрмінаў і ўмоваў правядзення выбараў з тым, каб забяспечыць перамогу Аляксандру Лукашэнку. Канчатковае рашэнне па гэтым пытанні пакуль не прынятае.

У прыватнасці, адна з аналітычных груп рэкамендуе правесці выбары прэзідэнта вясною 2001 года, каб не дапусціць у Беларусі развіцця сітуацыі па югаслаўскім варыянце. Там, як вядома, адзіны кандыдат ад апазіцыі быў «раскручаны» ў кароткі тэрмін, менш чым за 10 месяцаў, і здолеў атрымаць перамогу на выбарах кіраўніка дзяржавы.

На думку аналітыкаў, найбольш спрыяльны для прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі сакавік. Гэта абгрунтоўваецца наступным чынам. Па-першае, выбары будуць праходзіць да пачатку дачнага сезона, а значыць, найбольш пераканаўчыя прыхільнікі цяперашняга прэзідэнта — пенсіянеры — у масавым парадку прыйдуць на выбарчыя ўчасткі. Падругое, важна правесці выбары да пачатку традыцыйна планаваных на вясну масавых выступленняў апазіцыі.

Прапануюцца таксама варыянты дзеянняў на выпадак абвастрэння сацыяльна-палітычнага становішча. У такім разе аналітыкі рэкамендуюць правесці рэферэндум па пытаннях пашырэння паўнамоцтваў і функцый Нацыянальнага сходу з тым, каб менавіта парламент абраў прэзідэнта. Праўда, як зазначаецца, пабочным эфектам такога сцэнарыя можа быць знешняе непрызнанне гэтых выбараў, бо некаторыя міжнародныя арганізацыі ставяць пад сумненне легітымнасць Нацыянальнага сходу.

Яшчэ адным варыянтам на выпадак абвастрэння грамадска-палітычнай сітуацыі распрацоўшчыкі бачаць унясенне ў Канстытуцыю паправак, згодна з якімі прэзідэнт выбіраецца Усебеларускім народным сходам або з'ездам дэпутатаў мясцовых Саветаў. Разглядаецца таксама магчымасць сумяшчэння выбараў прэзідэнта і правядзення рэферэндуму па змяненні Канстытуцыі.

Групы аналітыкаў прапануюць таксама шэраг мер па паляпшэнні іміджу Аляксандра Лукашэнкі як кандыдата ў прэзідэнты на будучых выбарах. Мэта — заваяванне сімпатый найбольш крытычна настроеных у дачыненні да яго слаёў насельніцтва. Сярод такіх мер, лічаць распрацоўшчыкі, маглі б быць дзеянні, накіраваныя на паляпшэнне падатковага і інвестыцыйнага клімату, павышэнне стыпендый для студэнтаў і навучэнцаў, а таксама зарплат выкладчыкам, настаўнікам, медыцынскім кадрам, работнікам культуры, адмена прымусовага размеркавання студэнтаў. Прапануецца таксама правядзенне канстытуцыйнай рэформы і аднаўленне дыялога ўлады з грамадска-палітычнымі сіламі пры ўдзеле прадстаўнікоў міжнародных арганізацый. ■



# Путин уехал. Вопросы остались

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

Два рабочих дня, которые президент Российской Федерации провел в Минске, не принесли облегчения руководству Беларуси. В своем публичном заявлении, которое было оглашено на заседании Высшего государственного совета виртуального союзного государства, В.Путин предостерег от спешки в его создании. Да и призвал более внимательно учитывать разнообразие мнений по этому вопросу, которые имеют и выражают граждане обеих стран. А результатом своих бесед «тет а тет» В. Путин и А.Лукашенко назвали сроки когда в обеих государствах получит хождение единая валюта. Через пять лет ею станет российский рубль, а потом, возможно, она получит другое название, которое, как сказал В.Путин, никто не знает. Никто так вслух и не сказал, зачем надо будет именно 5 лет «пудрить» мозги простым людям про единую валюту, да и место, где она будет печататься. Правда, А.Лукашенко неуверенно обронил, что ее эмиссионный центр должен быть подальше от границ с *NATO*. Москва в этом смысле дальше расположена, чем Минск. Неясным осталась и та сумма «небольшого для России» стабилизационного кредита, который пообещал В.Путин своему стратегическому союзнику. Одни говорят о $100 млн., другие — о $200 млн., а в некоторых российских изданиях называют сумму в четверть миллиарда долларов. Сами собеседники предпочли точную сумму кредита не называть. Ведь он, как уверяют заинтересованные стороны, разбит на транши, выделение которых обусловлено жесткими требованиями, по российскому подобию преобразований в экономике Беларуси.

Насколько можно было судить по выражению лица В.Путина, на нем едва скрывалось удовлетворение от проведенных собеседований с А.Лукашенко. Видимо, он уверен, что найден безболезненный инструмент воздействия методом дозированного кредитования, без которого А.Лукашенко не проскочит президентские выборы. А «гениальные» ходы по перетряске белорусских силовиков, по некоторым данным В.Путин перенес снисходительно. Надо полагать, не застанут его врасплох и ожидаемые многими новые скандальные сюжеты. Например, с иностранными дипломатами, которым А.Лукашенко предложил «ужесточить контрразведывательный режим».

*Окончание на стр.3* ▶

**Шаноўныя чытачы!**
Запрашаем вас прыняць удзел у ГАРАЧАЙ ЛІНІІ з галоўным рэдактарам НАШАЙ СВАБОДЫ **Паўлам ЖУКОМ.**

Вы зможаце задаць любыя пытанні Паўлу ЖУКУ ў аўторак, 12 снежня з 12.00 да 14.00 па тэлефоне **228-69-18. Тэлефануйце!**

## НАВІНЫ

■ **Беларускія прадпрыемствы маюць перад канцэрнам «Белнафтахім» палiўны доўг на 9 мільярдаў рублёў.** Якраз гэтых грошай яму не хапае, каб закупляць новыя нафтавыя пастаўкі. Калі ўлетку Расія прадавала нам нафту па 126 долараў за тону, то зараз па 180 долараў.

■ **Памочнік старшыні праўлення Нацбанка Міхаіл Кавалёў паведаміў, што да канца 2000 года курс долара «не павялічыцца вышэй за адзнаку 1.200 беларускіх рублёў».** Разам з тым павелічэнне попыту насельніцтва на долары ён патлумачыў не падвышэннем зарплаты бюджэтнікам, а псіхалагічным фактарам, што звычайна бывае напярэдадні года.

■ **Беларуская гарэлка ўзяла завядзёнку даражэць кожныя два месяцы.** З 1 снежня, як і напачатку кастрычніка, кошты на высакаградусныя напоі зноў павялічыліся і зноў на 5%. Цяпер самая дарагая гарэлка «Новы век» прадаецца за 1.652 рублі, танней за ўсіх «Два буслы» – 1.433 рублі.

# Ян Павел II наведае Украіну

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Першы ў гісторыі Украіны візіт Папы Рымскага Яна Паўла II адбудзецца 21-24 чэрвеня 2001 года. Пра гэта паведаміла агенцтва «Интерфакс».

Як паведаміў у мінулы чацвер афіцыйны прадстаўнік Ватыкана, прэлат рымска-каталіцкай царквы прыедзе ва Украіну «на запрашэнне Біскупата і прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы». Да гэтага Ян Павел II наведае сваю радзіму – Польшчу.

Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма ўжо двойчы накіроўваў запрашэнне Папу Рымскаму наведаць ягоную краіну. Ян Павел II пагадзіўся на гэта, але цяпер упершыню прагучала дакладная дата візіту.

*Заканчэнне на стар.4* ▶

**Паважаныя чытачы! Увага!**

**ПАЧЫНАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 2001 ГОД!**

**Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер!**

**Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.**

**Падпісацца на НАШУ СВАБОДУ таксама можна праз любое аддзяленне «Беларусбанка». Спецыяльны купон – на стар. 6.**

**З 15 снежня наша газета пачне выходзіць 3 разы на тыдзень.**

**Кошт падпіскі на месяц – 1.040 рублёў.**
**Наш падпісны індэкс – 63478.**

# Комментарий к выступлению Александра Лукашенко в Комитете государственной безопасности 28.12.2000

*«Придя от народа, не имея минской элитной и чиновничьей тусовки или вашей, я понимал, что мне придется защищаться рано или поздно. Защищать народ властью, данной им мне. Я знал, что это произойдет тогда, когда чуть-чуть где-то перегнется ситуация. Вот почему после референдума, просчитав все моменты, начался президентский отчет, как некоторые говорили, президент продлил свои полномочия. Потому что я знал, когда это будет. Чтобы избежать перманентности в этом, президентские выборы были оттянуты после референдума на пять лет».*

В первых фразах своего выступления А.Лукашенко признается в манипулировании массовым сознанием и нарушении Конституции ради сохранения власти. В 1996 году президентские аналитические группы доложили Лукашенко о том, что при сохранении тенденций 1995 и 1996 годов, рассчитывать на победу летом 1999 года не представляется возможным. Тогда же был предложен проект удержания власти в течение 12 лет. Он включал проведение референдума осенью 1996 года, замену Верховного Совета назначенным псевдопарламентом, последующую легитимизацию этого парламента через проведение контролируемых выборов в 2000 году. В 2001 году, по этому плану, должен был пройти референдум по внесению изменений в Конституцию, закрепляющий право выбора главы государства за Национальным собранием «по примеру Чехии и Германии». Этот план рухнул, так как национальное собрание не получило международного признания.

*Окончание на стр.3* ▶

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1200

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





## Адкуль што

Аляксандар ДУБРАВІН

Сёння ўсе, каму ахвота, бэсцяць Міхаіла Пташука за ягоны фільм пра вайну пад назвай «У жніўні сорак чацвёртага». Пішуць, што гэта кіно знятае на аматарскім узроўні. Шкадуюць астранамічных грошай, выкінутых на вецер.

Я фільма не бачыў і рэжысёра бэсціць не стану. А хоць бы і бачыў, хай яму ўсё добра будзе. Хай яму і далей шанцуе на грошы. Чым выкідваць іх на ўсялякую маскоўскую брыдоту, кшталту мацвееўскага «Любіць па-руску раз-два-тры», хай лепей нашым дастанецца. Не такія грошы на вецер выкідаюць падчас дажынкаў, базараў і хакеяў. Не такія грошы крадуць з бюджэту на падтрымку розных прыдуркаў. Паглядзіце нашае тэлебачанне і замоўкніце. Палічыце, у што яно абыходзіцца.

Іншае турбуе. Тое, што нацыянальнага беларускага мастацкага кінематографа пакуль што не існуе ўвогуле, калі не лічыць пару-тройку кінафільмаў даўнейшых часін кшталту «Дзяўчынка шукае бацьку». Амаль усё, што зроблена на «Беларусьфільме» да гэтага часу – кіч, «балалайка», прымітыў, падробка пад нацыянальнае, індзейская рэзервацыя, расейскае ўяўленне пра беларусаў. Людзі, якія там шавеляцца, ні духам, ні мовай, ні культурай, ні вопраткай, ні розумам, ні характарам, ні паводзінамі не падобныя да беларусаў. Няма ў тых фільмах беларусаў, паглядзіце хоць Дабралюбава, хоць Рубінчыка, хоць Пташука, хоць Турава, не кажучы пра драбнейшых. Успомніце самі тыя «чорныя бярозы», «полымі»,«магілы льва», «белыя росы», «роды з дзяцінства» і г.д. Няма там беларусаў, таму і характэрныя беларускія артысты не патрэбныя. Можно смела запрашаць хоць поўны тузін расейскіх. Амаль усе мастацкія творы «Беларусьфільма» з аднолькавым поспехам маглі быць знятыя на любой кінастудыі былога Савецкага Саюза.

А зараз, для кантрасту, успомніце грузінскія фільмы. Альбо літоўскія. Напрыклад, славуты фільм Жалакявічуса «Ніхто не хацеў паміраць». Успомніце галоўных герояў. Разумееце, пра што кажу? Вяду да таго, што каб літоўцы пачалі здымаць пра вайну, дык у іх атрымалася б, бо ёсць вышэйшыя кінематаграфічныя ўзоры нацыянальнага характару. Яны ж не падрабляюцца пад маскоўскія стандарты. Здымаюць кіно ПРА СЯБЕ. А беларусу Пташуку адкуль што ўзяць, калі ён усё жыццё здымаў ПРА ІХ? На што абаперціся, калі няма ўласных традыцыяў, калі трэба задаволіць людзей з іншым менталітэтам? Вам падабаюцца расейскія фільмы, знятыя пра Амерыку? І мне не падабаюцца. Яны для дэбілаў. І Пташук здымаў так, каб падабалася дэбілам. Якія заказчыкі, такое і кіно.

Між тым ёсць выдатны прыклад нечуванага ўсенароднага поспеху беларускага кіно. Гэта зняты на кінастужку ў канцы шасцідзесятых гадоў з экрана тэлекамеры тэлеспектакль «Людзі на балоце». Гэта было кіно ПРА СЯБЕ і ДЛЯ СЯБЕ. Вось той шлях, на якім нацыянальнае робіцца агульначалавечым. А вы рэжысёра бэсціце...

## Праваабаронцы Беларусі яднаюцца

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

11 праваабарончых арганізацыяў Беларусі («Вясна», «Прававая дапамога насельніцтву», Цэнтр па правах чалавека, Хельсінкі-XXI ды іншыя) прынялі прынцыповае рашэнне напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2001 года аб'яднаць свае намаганні і стварыць асацыяцыю. Так вырашылі праваабаронцы на «круглым стале», што прайшоў у рамках III Кангрэса Асамблеі НДА. Створаная рабочая група (прэзідэнт «Вясны» Алесь Бяляцкі, старшыня «Прававой дапамогі насельніцтву» Алег Волчак ды праваабаронца з Петрыкава Мікалай Глушко), якая зоймецца выпрацоўкай неабходных дакументаў для рэгістрацыі.

Алег Волчак паведаміў НАШАЙ СВАБОДЗЕ, што Асацыяцыя праваабарончых арганізацыяў ствараецца для аб'яднання намаганняў праваабаронцаў і ўзаемадапамогі – па сутнасці, ствараецца своеасаблівая структура «кругавой парукі» арганізацыяў у найлепшым сэнсе гэтага слова. Асацыяцыя стане не толькі цэнтрам каардынацыі дзеянняў і прыняцця рашэнняў, але і самаабароны праваабаронцаў. А.Волчак лічыць, што «такім цывілізаваным крокам напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў праваабаронцы зробяць значны ўклад у правядзенне кампаніі». Але найперш Асацыяцыя мусіць «забяспечыць абарону грамадзянаў: удзельнічаць ці не ўдзельнічаць у выбарах – гэта права кожнага грамадзяніна, і ніхто, у тым ліку і дзяржава, не павінны ўшчамляць іхнія правы». ■

## Зноў беларусісты збіраюцца ў Мінску

Таццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ

Сёння ў Мінску распачынаецца другая сесія Трэцяга міжнароднага кангрэса беларусістаў. Першая сесія, як вядома, адбылася вясной мінулага года. Разбіць гэта мерапрыемства на дзве часткі кіраўніцтва Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў мусіла дзеля выканання сваіх статутных абавязацельстваў. У час другой сесіі кангрэса будуць працаваць чатыры тэматычныя секцыі.

Да зімовай сесіі кангрэса прымеркаванае выданне першай часткі энцыклапедычнага даведніка «Хто ёсць хто сярод беларусаў свету» — «Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах». Госці і ўдзельнікі кангрэса пачалі збірацца яшчэ на мінулым тыдні, аднак выдзелены на гэтыя мэты грант ЮНЕСКА за два дні да пачатку кангрэса яшчэ не паступіў да арганізатараў гэтай навуковай імпрэзы. Хаця грошы, як паведамілі з уплывовай еўрапейскай арганізацыі, былі пераведзеныя яшчэ ў верасні. Дзе яны так доўга блукалі і як удалося знайсці іх сляды – у наступным нумары газеты. ■

## Строеў вывез зубраў з Белавежскай пушчы

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Вялая цікавасць у берасцейскай глыбінцы да саміту ў Мінску абуджаецца хіба толькі, калі на экранах тэлевізіі з'яўляецца хтонебудзь са словамі пра вольны абмен ці продаж на памежжы. Людзей тут заела «партызаншчына».

300 кіламетраў мяжы мае Брэстчына з Украінай. У абход кожнага прапускного мытнага пункта (іх усяго 7) існуе да 120 лясных сцежак і дарог. Сёлета праз іх вывезеныя і выведзеныя некалькі тысяч кароваў, быкоў і цялушак. Дакладнага ўліку не існуе, але, напрыклад, калі за 9 месяцаў 1999 года Кобрынскі мясакамбінат закупіў у насельніцтва 476 тон жывой вагі жывёлы, то сёлета – толькі 180 тон. Гэта менш на 700 галоў, кожная жывёла важыць 400-430 кг.

10 лістапада супрацоўнікі Кобрынскага ГРАУС затрымалі ў пасёлку Дзівін грузавік ГАЗ-52 Кобрынскага МП «Сантэхэлектрамантаж», кіраваў якім Васіль Левы. У кузаве знаходзіліся 4 каровы, на якія грамадзяне Украіны В.Штык, А.Паўлючык і А.Барэцкі прад'явілі сельсавецкія даведкі з Жабінкі аб нібыта набытай жывёле на прыватных падворках. Але, паколькі ў кіроўцы В.Левага быў выпісаны пуцявы ліст на іншы груз, сержанты пачалі разбіральніцтва, і неўзабаве высветлілася, што транспарт наняты за хабар, а каровы – калгасныя, выкупленыя праз галоўнага заатэхніка жабінкаўскага калгаса «Рассвет» Аляксандра Досту за 500 долараў. Адну сотню «зялёных» калгасны спецыяліст прысвоіў як навар за пасрэдніцкія паслугі перакупшчыкам.

7 чалавек (3 украінцы, заатэхнік, сельсавецкі чыноўнік, шафёр і ягоны механік) праходзяць па крымінальнай справе несанкцыяванага вывазу жывёлы (парушэнне лукашэнкаўскага ўказу №15), і гэта дае падставы гаварыць пра арганізаваны спосаб «партызаншчыны» на беларуска-ўкраінскім памежжы. Прыватным чынам (на вяроўцы за рогі) беларусы выводзяць жывёлу, нават не тоячыся ад памежнікаў, бо нельга падазраваць кантрабандыста ў кожным пастуху.

Украінскія перакупшчыкі плацяць адразу гатоўкай і даюць па 50-70 долараў больш за карову, чым беларускія мясакамбінаты, якія да таго ж не маюць грошай.

Пакуль на Украіне даражэй каштуюць жывёла, трыкатаж, запалкі, аўтазапчасткі, а танней – спірт, кава, цыгарэты, тушонкі і касметыка, беларусы з памежжа не скончаць сваю «партызанку». Каб прадаць адно і набыць іншае, людзям даводзіцца хавацца з рэчамі ў цягніках альбо не спаць ноч у каравуле за ляснаой дарогай.

35-гадовы Мікалай Верыч з белавежскага памежжа, з якім мы гаварылі пра спадзяванні на якія-небудзь зрухі ў легалізацыі сустрэчнага гандлю, як высветлілася, добра ведае, што спікер Савета Федэрацыі Расіі Ягор Строеў не заплаціў Белавежскай пушчы за некалькі зубраў, вывезеных адсюль на Арлоўшчыну. Такім чынам, патрыярх руху за саюзнае аб'яднанне сам даў прыклад нелегальнага вывазу жывёлы.

— Я перакананы, — гаворыць М.Верыч, — што Беларусі не варта ўзвальваць на сябе ролю палітычнага інтэгратара СНД. Нашы эканамічныя інтарэсы былі б больш абароненымі пры суверэнітэце і незалежнасці, калі не давялося б дагаджаць «старэйшаму брату» і не прайграваць краіне-суседцы з больш дынамічным развіццём прамысловасці еўрапейскай арыентацыі. ■



Фота IREX/ProMedia

## Камунальныя паслугі падаражэлі амаль у 8 разоў

Дзмітрый УЛАСАЎ

У лістападзе ў Беларусі зноў узраслі тарыфы на многія віды камунальных паслугаў для насельніцтва.

Так, у параўнанні з кастрычнікам на 10,5% падаражэлі газ, гарачая, халодная вада і каналізацыя, настолькі ж узрасла квартплата (тэхабслугоўванне), на 9% — плата за карыстанне ліфтам, на 21% — за вываз і абясшкоджванне адходаў.

Стаўка квартплаты (тэхабслугоўвання), адзіная для ўсёй Беларусі, узрасла з 7,14 да 7,89 рубля за квадратны метр агульнай плошчы. На ранейшым узроўні засталася плата за электраэнергію (14,4 рубля за кілават) і карыстанне радыёкропкай (105 рублёў).

У лістападзе ў разліковых лістках зноў з'явілася графа «ацяпленне». Тарыф на ацяпленне аднаго квадратнага метра агульнай плошчы кватэры роўны зараз 56,7 рубля. Гэта ў 5,8 раза больш, чым у красавіку — апошнім месяцы папярэдняга ацяпляльнага сезона.

З пачатку года квартплата (тэхабслугоўванне) і тарыфы на камунальныя паслугі ўзраслі ў 1,8-7,7 раза. Больш за ўсё падаражэлі ацяпленне і гарачая вада (у 7,7 раза). ■

БелаПАН

## Чатыры заказныя забойствы ў Брэсце

Валянціна КАЗЛОВІЧ

На гэтым тыдні ў Брэсцкай вобласці адбыліся адразу чатыры забойствы, якія, як мяркуюць работнікі УУС, могуць быць заказнымі.

Труп 31-гадовага брэстчаніна быў знойдзены 28 лістапада каля вёскі Плоска Брэсцкага раёна. Ён быў забіты з агнястрэльнай зброі. На наступны дзень на тэрыторыі Пінскага раёна быў знойдзены аўтамабіль «аўдзі» з трыма трупамі ў салоне: на целах забітых таксама выяўленыя агнястрэльныя раны. Расследаваннем першага забойства займаецца Брэсцкая раённая пракуратура, другога — абласная.

Больш падрабязную інфармацыю следчыя даваць журналістам адмаўляюцца, спасылаючыся на тайну следства. ■

БелаПАН

## Шалом, новая школа!

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Намаганнямі Пінскай іудзейскай рэлігійнай абшчыны ў гэтым горадзе адкрытыя габрэйскія класы пры СШ №6. Навучэнцы з Барысава, Віцебска, Верхнядзвінска, Гомеля, Добруша, Мінска і Пінска – усяго 22 чалавекі – займаюцца па праграме агульнаадукацыйнай школы з дадаткам урокаў іўрыту і адмысловага прадмета на факультатыве — «Традыцыі». Жывуць школьнікі ў арандаваным гатэлі спартовай школы, а харчуюцца ў рэстаране «Прыпяць», з абавязковым уключэннем у меню страваў габрэйскай кухні.

Новая школа – толькі для юнакоў і, як гаворыць дырэктар Ігар Каралінскі, колькасць навучэнцаў будзе павялічвацца да 10 вучняў у кожным з 6-га па 11 класы. Невялікая шчыльнасць у аўдыторыях – абавязковая ўмова элітарнага навучання на чале з педагогамі, якія маюць толькі найвышэйшую прафесійную катэгорыю. Дзеля гэтага не давялося выпісваць іншагародніх выкладчыкаў, бо Пінск цяпер з'яўляецца добрым адукацыйным цэнтрам на Палессі з тузінам тэхнікумаў, філіялаў ВНУ і нават сваім эканамічным інстытутам.

Чаму менавіта Пінск? Гэты горад на рачным шляху ад Чорнага мора да Балтыйскага быў яшчэ ў XVI стагоддзі месцам габрэяў-гандляроў, а, напрыклад, у 1932 годзе меў 6 сінагогаў і 28 тысяч іудзеяў з усіх 36 тысяч гараджанаў. У апошнюю вайну горад страціў у фашысцкіх гета больш як 40 тысяч чалавек. ■

## У правінцыі не стае юрыстаў

Алена ЛАБАНАВА

Па звестках прэзідэнта Саюза юрыстаў Уладзіміра Бойкі, юрыстаў у краіне налічваецца ўсяго за 5 тысячаў чалавек. Дзіўна, бо адныя толькі Беларускі інстытут правазнаўства, арганізаваны Саюзам, і БДУ кожны год даюць больш за 200 выпускнікоў-юрыстаў.

Самымі перспектыўнымі ў нашых рэаліях застаюцца юрысты, што спецыялізуюцца на эканоміку, міжнародную дзейнасць, аудыт і менеджмент. Вось толькі з якасцю выкладання юрыдычных навук ва ўсіх ВНУ краіны справы не зусім добрыя. Па словах Уладзіміра Бойкі, калі тэарэтычныя веды ў студэнтаў неблагія, то з практыкай — наадварот. Таму з'явілася прапанова перагледзець праграмы падрыхтоўкі спецыялістаў у гэтай галіне, каб акцэнт рабіўся менавіта на практычныя заняткі.

Пераважная большасць юрыстаў сканцэнтраваная ў Мінску, а ў дзесятках раёнаў па абласцях наогул няма ніводнага юрыста, няма каму абслугоўваць аграпрамысловы комплекс. Таму прапанавана пры прыёме на юрыдычныя факультэты аддаваць перавагу абітурыентам з вёсак.

Шмат цяжкасцяў узнікае з абаронай інтарэсаў нашых прадпрыемстваў за мяжой. Нашыя юрысты не могуць займацца прадстаўніцтвам у замежных судах, бо не маюць тамтэйшых адукацыі і грамадзянства. Разам з тым, напрыклад, у ЗША расцэнкі на паслугі юрыста складаюць 40 тысячаў за гадзіну. Таму прававыя агенцтвы зараз займаюцца пошукамі беларусаў за мяжой, якія возьмуць у якасці ганарара меней.

Што да беларускіх рэаліяў, то Саюз юрыстаў хоча ўзяць на сябе пытанні ліцэнзавання юрыдычнай дзейнасці і правядзення кваліфікацыйнага экзамена юрыстаў, якія зараз належаць да кампетэнцыі міністэрства юстыцыі. У Саюзе спасылаюцца на замежны досвед, які паказвае, што больш плёну тады, калі гэтым займаюцца якраз грамадскія аб'яднанні юрыстаў. ■

## Крызіс у «вярхах» Грамады

Рыгор БУЯН

Цяперашні старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч няўхільна здае свае пазіцыі ў партыі. Гэтую тэндэнцыю яскрава засведчыў пленум ЦК БСДП, які прайшоў 2 снежня. Асноўным яго вынікам сталася рашэнне склікаць пазачарговы з'езд, які мусіць вырашыць крызіс у кіраўніцтве партыі.

ЦК спрабаваў вырашыць канфлікт кіраўнікоў. Як вядома, з-за розных падыходаў да выбараў у палату прадстаўнікоў у Грамадзе пайшло размежаванне на староннікаў удзелу ў выбарах (гэтае крыло ўзначаліў М.Статкевіч) і на праціўнікаў на чале з намеснікам старшыні кіраўніком фракцыі «За адзінства» Аляксеем Каралём. Па прамым загадзе лідэра партыі і ў парушэнне партыйнага Статута гаркам Грамады выключыў з шэрагаў партыі А.Караля.

ЦК аднавіў А.Караля ў партыі і пастанавіў склікаць пазачарговы з'езд да 3 сакавіка 2001 года.

З'езд мусіць канчаткова вырашыць крызіс «у вярхах» Грамады — абмеркаванне вынікаў восеньскіх кампаніяў паказала, што апаненты засталіся пры сваіх поглядах. Разыходжанні захоўваюцца і ў падыходах да прэзідэнцкай кампаніі: ЦК прыняў рашэнне весці перамовы пра вылучэнне адзінага кандыдата ад усіх апазіцыйных правячаму рэжыму партыяў.

У кулуарах гаварылі пра тое, што партыя можа падтрымаць кандыдата ад Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Узнікла ідэя рэанімяраваць Сацыял-дэмакратычны Саюз (СДС) – выбарчы блок, створаны напярэдадні парламенцкіх выбараў у ВС у 1995 годзе. Ідэя рэанімiравання СДС ужо даўно вітае ў паветры, і, відавочна, на яе робіць упор частка партыі на чале з М.Статкевічам. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Вслед друг за другом

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**27-28 ноября с.г. в Минске с визитом находилась делегация Министерства иностранных дел Корейской Народно-Демократической Республики во главе с начальником департамента стран СНГ Сим Гук Реном.**

Во время визита прошли консультации между представителями министерств иностранных дел Беларуси и КНДР, в ходе которых состоялись переговоры корейской делегации с заместителем министра иностранных дел Республики Беларусь Василием Пугачевым.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Делегация МИД КНДР посетила также Минский автомобильный завод, где были обсуждены вопросы поставок автомобилей марки «МАЗ» на северокорейский рынок. По имеющейся информации, представителей Пхеньяна интересовала такая популярная продукция марки «МАЗ», как колесные тягочи, используемые в качестве платформ для мобильных ракет. Не секрет, что покупателем именно этой продукции в довольно значительных цифрах, по белорусским масштабам, являются Китай, да и сама Россия. Корейскими гостями был проявлен интерес и к высокотехнологичной продукции белорусских предприятий бывшего советского ВПК. Как тут не вспомнить об обеспокоенности, которую проявляют в Японии и на Западе по поводу ракетно-ядерных программ Пхеньяна.

Официальная информация о данном визите появилась лишь после его завершения. Говорят, чтобы не привлекать излишнего внимания журналистов. К такой практике освещения своих порою специфических контактов МИД Беларуси прибегает не впервые. К примеру, лишь по возвращению домой, стало известно, что глава внешнеполитического ведомства посещал Триполи, а его заместитель В.Пугачев — Тегеран. Кстати, до своего прихода в МИД В.Пугачев последовательно руководил структурами по международному сотрудничеству в министерстве обороны и правительстве Беларуси. Так что в связке с послом в Тегеране (а с недавних пор по совместительству и в Ашхабаде) Леонидом Рачковым, который в КГБ дослужился до полковника, у В.Пугачева может получиться перспективная работа с аятоллами. Не исключено, что будут попытки различных деятелей заманить президента Ирана в Минск. На декабрь с. г. уже объявлен его визит в Москву. Почему бы программу этого визита (как это уже бывало с другими) не расширить заездом в одну из частей будущего союзного государства? Ведь иранский президент был среди тех немногих, кто специально общался с руководителем Беларуси в Нью-Йорке на «саммите тысячелетия».

Официальным Минском старательно оберегается информация о готовящемся визите в Багдад главы государства Александра Лукашенко. По информации некоторых СМИ, данный визит планируется на середину декабря с. г. Наблюдатели отмечают, что в последнее время контакты МИДов и других ведомств Беларуси и России с такими странами, как Ливия, Ирак, Иран, Северная Корея, некоторыми другими странами приобрели синхронный характер. Чаще союзная Беларусь первой, в роли этакой «санитарки» на минном поле, зондирует почву для развития отношений со специфическими режимами. Изучив реакцию Запада на такого рода контакты, затем уже российские деятели там появляются. Тому примерами могут служить, как вслед за А.Лукашенко в Триполи появился С.Шойгу, а после недавнего визита белорусской делегации в Тегеран, которую возглавлял заместитель министра иностранных дел Беларуси Василий Пугачев, там вскоре должен появиться маршал И.Сергеев. Справедливости ради стоит отметить, что до них в Тегеране уже побывал с трехдневным рабочим визитом секретарь российского Совета безопасности Сергей Иванов. Та же картина с другим Ивановым, главой российского МИД, гостившем недавно в Багдаде. Вслед за ним и появилась информация, что к другу Саддаму засобирался руководитель Беларуси.

Правда, остаются еще режимы, с которыми Россия пока не спешит в открытую общаться. Но ее стратегического союзника это не смущает. По информации из достоверных источников и при полном молчании официальных СМИ, недавно в Беларусь приезжали высокопоставленные особы из Сомали. Два члена нового сомалийского руководства, генералы Бен Али Исмаил и Бен Мухаммад Абди обсуждали с белорусской стороной вопросы закупки вооружений для сомалийской армии. Следует отметить, что, по неофициальной информации, несмотря на свою отставку с поста госсекретаря Совета безопасности, Виктор Шейман по-прежнему возглавляет комиссию по военно-техническому сотрудничеству, которая ведает и оружейным экспортом. А что касается двух сомалийских генералов, то дата их приезда и продолжительность пребывания в Беларуси, достигнутые результаты прошедших переговоров пока остаются неизвестными. Для граждан Беларуси, но не для Кремля. ■

# Магчымы тэрмін выбараў прэзідэнта ў 2001 годзе каментуюць вядомыя палітыкі

**Былы прэм'ер-міністр Міхаіл ЧЫГІР:**

— Чыста лагічна: чым раней правесці прэзідэнцкія выбары, тым лепш для Лукашэнкі. У сакавіку ён мае большыя шансы на перамогу, чым пазней, увосень. Аднак я думаю, што ён не пойдзе на лагічнае рашэнне. Я два з паловай гады прапрацаваў з Лукашэнкам і ведаю, што ён жыве заўтрашнім днём. Ён жыве надзеяй, што заўтра будзе лепш, чым сёння, і прасцей перамагчы. Лукашэнка не хоча ўсведамляць, што з кожным днём яго праўлення краіну ўсё глыбей і глыбей будзе зацягваць у процьму крызісу.

Калі ж апазіцыя атрымае доступ да СМІ, калі ў краіне будуць створаныя мінімальна дэмакратычныя ўмовы выбараў, — тады Лукашэнка не мае ўвогуле ніякіх шансаў. Я мяркую, што ён будзе праводзіць выбары ўвосень, а не ў сакавіку.

**Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13 склікання, старшыня АГП Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:**

— Магчымае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў вясной для нас не навіна. Мы мяркуем, што могуць быць два варыянты правядзення выбарчай кампаніі: так званы «ўсечаны» варыянт, калі выбары праходзяць вясной-летам, і варыянт выбараў увосень. Таму мы гатовыя да развіцця падзеяў па любым варыянце.

Лукашэнка зацікаўлены правесці выбары як мага хутчэй, калі апазіцыя, так бы мовіць, будзе яшчэ на маршы, гэта значыць не паспее падрыхтавацца да прэзідэнцкай кампаніі. Падругое, кожны пражыты месяц не дадае ачкоў Лукашэнку, і правядзенне выбараў на некалькі месяцаў раней дазволіць яму не дапусціць падзення свайго рэйтынгу на колькі пунктаў ніжэй.

Аднак няма істотнай розніцы, адбудуцца выбары вясной альбо восенню. Лукашэнка будзе рабіць стаўку на сілавыя метады падрыхтоўкі і правядзення выбараў, што і даў зразумець падчас свайго наведвання КДБ. Прэзідэнцкая кампанія будзе праходзіць у атмасферы страху, запалохвання, пры адсутнасці ўсялякіх дэмакратычных умоваў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета 13 склікання Сямён ШАРЭЦКІ:**

— Для мяне гэта навіна. Я думаю, што выбары пройдуць усё ж увосень, бо вясной «гаспадзін Гайдукевіч» праводзіць свой Кангрэс. А Гайдукевіч – гэта той чалавек, які, на мой погляд, дзейнічае разам з прэзідэнцкай адміністрацыяй.

Але я не выключаю, што выбары могуць прайсці і вясной. Мабыць, на нядаўнім саміце ў Мінску была дасягнутая пэўная дамоўленасць Лукашэнкі з Пуціным. Я падкрэсліваю: «мабыць». Калі не будуць выкананыя чатыры ўмовы міжнароднай супольнасці, пастаўленыя перад рэжымам, то прэзідэнцкія выбары стануць такім жа фарсам, як і выбары ў палату прадстаўнікоў, з загадзя вядомым вынікам. Расійскім шавіністам трэба дапамагчы легітымізавацца антыдэмакратычнаму рэжыму, які па адносінах да Беларусі зараз – антыбеларускі. Апошнія змены ва ўрадзе сведчаць за тое, што ўсе намаганні рэжым скіраваў на тое, каб прывесці да кіраўніцтва ў Беларусі прадстаўніка Крамля, а дакладней – ФСБ.

**Старшыня БСДГ Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

— У цяперашняй сітуацыі ўзнікае адно пытанне: які тэрмін лічыць тэрмінам заканчэння паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі? Па выніках рэферэндуму 96-га года, гэтым тэрмінам можа лічыцца канец лістапада, а па Канстытуцыі 94-га года – гэта пачатак чэрвеня. Так як дата выбараў прызначаецца не пазней за тры месяцы да заканчэння паўнамоцтваў, то выбары могуць быць прызначаныя ў любы дзень.

Магчымыя варыянты. Але паколькі рэйтынг нашага галоўнага незаконніка падае дзень да дня, то ён можа і паспяшацца з правядзеннем выбараў. Нічога нельга выключаць: Еўропа прызнала выбары ў «палатку» недэмакратычнымі, а саміт СНД – дэмакратычнымі. Да такога ніводзін саміт не апускаўся! Гэта проста сорам! ■

# Путин уехал. Вопросы остались

*Окончание. Начало на стр.1*

Понятно, что не в меньшей, а может быть и в большей мере этот «режим» коснется и всей оппозиции, шумно координирующей свою деятельность. И как бы А.Лукашенко не пугал Москву своей оппозицией, мало кто там верит в ее массовость и способность к другим способам сопротивления. Как и мало кто оспорит то очевидное, что инициатива на оси Москва-Минск у хозяина Кремля. И он диктует этапы большого пути в светлое будущее единения двух государств.

Уверенность и работоспособность В.Путина, проявленные им в Минске, сказались и на двусторонних встречах с президентами Украины и Грузии, которые приезжали в Минск на саммит стран СНГ. Так, по словам В.Путина и Л.Кучмы, им удалось решить «газовые» проблемы, которые омрачали в последнее время двусторонние отношения. Украине удалось добиться отсрочки долговых платежей за газ на десять лет. Вроде бы не будут ущемляться ее интересы и при строительстве новых газопроводов в Европу. Понятно, что у белорусской стороны мог возникнуть вопрос, каким образом это обещание россиян будет выполняться. Когда глава российского правительства Михаил Касьянов говорил аккредитованным в Минске журналистам о предстоящей деловой беседе на «газовую» тему, то некоторые из них поняли его слова так, что беседа будет носить трехсторонний формат. С участием белорусской стороны, кровно заинтересованной в прокладке через себя нового газопровода. На желательность своего присутствия при обсуждении «газовых» тем усиленно намекали некоторые высокопоставленные белорусские чиновники. Однако, россияне и украинцы не сочли это необходимым и договорились между собой. Впрочем, как полагают некоторые наблюдатели, белорусская сторона вполне могла «незримо» участвовать в этой, как оказалось, ночной беседе.

И еще один после отъезда В.Путина оставшийся вопрос, на который пока ответа нет. Как известно, Россия объявила введение с 5 декабря визового режима для Грузии, что вызвало болезненную реакцию у грузин. Этого не скрывал президент Грузии Эдуард Шеварднадзе, назвав это решение Москвы «шагом назад» в двухсторонних отношениях. И хотя В.Путин называет эту меру вынужденной и временной, обида у единоверцев остается. Как и неясность, насколько введение визового режима коснется Абхазии. Ведь признавая территориальную целостность Грузии, Россия тем самым должна ввести этот режим по всему периметру российско-грузинской границы. Непонятно тогда будет и то, как Беларусь будет продолжать осуществлять свои связи с Абхазией на уровне субъектов хозяйствования. О проведении такой политики официального Минска в отношении абхазских, да и других сепаратистов на постсоветском пространстве говорил А.Лукашенко. Так что и в этом вопросе он «незримо» присутствовал. ■

# Комментарий к выступлению Александра Лукашенко в Комитете государственной безопасности 28.12.2000

*Окончание. Начало на стр.1*

*«Второе, поскольку не было опоры, я знал, что рано или поздно, особенно когда был уволен Юрий Захаренко, и он начал создавать силовую составляющую в оппозиции.... Или вам это неизвестно? Или вам неизвестно, что миллионы долларов бросались, прежде всего, в «Алмаз»?...»*

Генерал-майор милиции Юрий Захаренко предположительно был ликвидирован группой, устранившей Дмитрия Завадского, Виктора Гончара и Анатолия Красовского. Произошло это вскоре после того, как Захаренко объявил о создании «Белорусского союза офицеров». При активизации действий этот Союз мог стать более влиятельной структурой, чем «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» периода 1993-1995 годов, у истоков которого стоял, в числе прочих, Виктор Шейман. Шейман хорошо знал о влиянии и авторитете подобных структур в среде военнослужащих.

*«Я от своих родных получил по Орше информацию – город бандитский, дальше терпеть этого нельзя, каждый второй преступник. Я и бросил этот отряд туда. Вы знаете результат. Вы знаете, что один человек погиб, одного искалечили, ранили, и этого парня, которого вы схватили, – он тоже был ранен. Он за это был награжден. А не за то, что он похитил каких-то людей. Это самые боеспособные подразделения. Самые честные и преданные люди, которые в силу своих обязанностей, каждый день с «Алмазом» работают по вашим поручениям. Плюс «Альфа». За что на них накатываете вы?»*

В этом отрывке выступления речь идет об операции отряда МВД «Алмаз» в Орше. Но важно не упоминание операции, а попытка оправдать бойца «Алмаза» Игнатовича. Игнатович, в недавнем прошлом подчиненный нынешнего министра внутренних дел Владимира Наумова. Сейчас Игнатович изобличен как член преступной группы, виновной в похищениях оператора ОРТ Дмитрия Завадского, политика Виктора Гончара и бизнесмена Анатолия Красовского. До ареста Игнатович являлся одним из лидеров Русского национального единства (отвечал за боевую подготовку), сотрудничал с чеченскими сепаратистами в качестве инструктора. Он также подозревается в организации нападений на оппозиционных политиков и журналистов. Попытки Лукашенко оправдать Игнатовича говорят о том, что он пытается сохранить «эскадроны» для дальнейшей деятельности.

*«При расследовании уголовных дел, получивших общественный резонанс, оппозиционные средства массовой информации развернули общественное мнение в нужное для себя направление от реальной сути и искажали ход следствия, вмешиваясь в него. Порой не без помощи следователей, которые вбрасывали в СМИ так называемые полусомнительные факты, организованные утечки. Вы это, что, не видели? Вы не читали оппозиционную прессу? Все братские средства массовой информации в унисон с западными «доброжелателями» пытаются обвинить меня, президента страны, в исчезновении людей, известных людей. Последние исчезновения – это Завадский, Винникова, Батурин».*

Любопытно, что после появления письма, подписанного сотрудником КГБ, Лукашенко ни разу не заявил, что это письмо является выдумкой или провокацией. Он упорно заявляет, что это утечка информации. Следовательно, то, о чем говорится в письме – правда, и арестованная группа виновна в убийстве Завадского, Гончара и Красовского.

*«Так вот, чтобы не мучались больше журналисты по поводу вот этих всех громких дел и преступлений, я хочу заявить следующее – да, я виноват, что это произошло в стране. Я, потому что я – президент. И больше не ищите виновных. И поэтому я несу за это и другое ответственность в полном объеме. Поэтому, еще раз подчеркиваю, не пытайтесь найти виновных, – виноват только я. Но судить меня будут только тогда, когда мне в доверии откажет народ. И когда они захватят власть. Тогда они все без суда и следствия, и это вы хорошо знаете, посадят меня на кол под одобрительные вопли западных наставников демократии. Поэтому я еще раз подчеркиваю, я виноват, и я несу ответственность за все, что тут происходит в нашем государстве».*

Этот ход называется «псевдопризнанием». Пафосное признание вины должно пробудить в следователе сомнение в виновности подследственного. Это плохо удается Лукашенко.

*«108 миллионов долларов, то, что мы обнаружили вместе с вами, на парламентские и президентские выборы уже на сегодняшний день вертятся в оппозиции. Вы видите активизацию ее агрессивных действий».*

Сумма в 108 миллионов долларов не фигурировала ни в одном отчете КГБ, МВД или Совета безопасности. Эта цифра придумана Александром Лукашенко. Она нелепа, т. к. в Югославии на поддержку оппозиции правительствами стран Европы и США за все время было израсходовано около 72 миллионов долларов.

*«Прокуратура страны будет усилена в ближайшее время неимоверно... Прокуратура по закону осуществляет контроль за единообразным и точным исполнением закона в нашей стране, тоже по конституции. Вот в рамках этого мы будем действовать. Но будем действовать еще жестче, чем прежде».*

Во время встречи Александра Лукашенко с Владимиром Путиным, присутствовавший при разговоре глава Совета безопасности России Сергей Иванов высказал пожелание российской стороны – убрать Виктора Шеймана. Российским профессионалам было тяжело работать с дилетантом Шейманом. Лукашенко гарантировал россиянам смену Госсекретаря. Латыпов должен был стать компромиссной фигурой, устраивающей Москву. Но Лукашенко снова обманул Кремль, забрав у Совета безопасности ключевые функции и передав их все тому же Шейману, ставшему генпрокурором. Владимир Наумов должен обеспечить подавление массовых акций оппозиции.

**Аналитическая группа «Y»**

***P.S.*** *Гэты матэрыял прыйшоў да нас па электроннай пошце. Ягоныя аўтары, якія схаваліся пад псеўданімам «Y Group», прапанавалі свой позірк на тлумачэнні пэўных падзеяў А.Лукашэнкам.* ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Малы тэатр: ваўка кормяць ногі



● Віктар Манаеў, Ігар Забара і Сяргей Журавель у спектаклі «ART»



● Фрагмент з «Дотыку»

**Спектаклі «ART» і «Камедыя» ў Мінску, здаецца, ужо паглядзела палова горада. Апошнім часам Малы тэатр актыўна заняўся арганізацыяй паездак у Беларусь тэатральных гастралёраў і прадзюсерствам – трэба ж неяк самаакупляцца. Як маецца тэатр у творчым і эканамічным плане, распавядае ягоны мастацкі кіраўнік і адначасова акцёр Ігар Забара.**

— Малы тэатр паўстаў, можна сказаць, на руінах Альтэрнатыўнага тэатра, які быў сапраўдным з'явішчам, бо быў першым крокам да арганізацыі ў Беларусі прыватных і альтэрнатыўных дзяржаўных тэатраў. Гэта *alma mater*, і мы зусім не тэатральнае ноу-хау. Апрача нас, ёсць таксама «Віртуозы сцэны» ды іншыя.

***— Ігар, наколькі запоўненая, на вашую думку, тутэйшая тэатральная прастора?***

— У нас адсутнічае, як і ў Расіі, ільготнае падаткаабкладанне для тых фірмаў, хто ўкладае грошы ў культуру. Заходжу ў па ідэі дзяржаўны Ленкам да Марка Захарава. Там вісіць вялікая мармуровая дошка – на ёй залатымі літарамі банкі, які дапамагаюць. У Беларусі нявыгадна быць спонсарам. Калі нехта скажа, што дапамагае якому-небудзь тэатру, то адразу падатковая: што багата грошай лішніх? Нават у глыбінцы расійскай тэатры жывуць багацей за нашыя. У тым ліку па памерах выдаткаў на пастаноўкі. У нас лічыцца, што ўкладзеныя 10 тысячаў долараў – класны спектакль, у іх гэта не акупіць нават ганарараў рэжысёра і мастака.

***— Існаванне недзяржаўнага тэатра, мусіць, дужа турботнае?***

— Ваўка кормяць ногі. Гэта ў дзяржаўных тэатрах, сам бачыў, дзень праходзіць так. Артысты збіраюцца аб 11-й у грымёрцы і слухаюць па селектары, што там на сцэне. Да сваёй рэплікі раз на паўгадзіны па чарзе туды падыходзяць. Астатні час гуляюць у покер, да 9-й вечара. У іх ёсць вялікая бухгалтарская кніга, за некалькі гадоў уся распісаная дробным почыркам. Я такога жыцця не хачу. Прайшоў час, калі ў савецкім кінематографе здымалася процьма фільмаў, калі ў тэатр прыходзілі і казалі, што нам патрэбныя акцёры. Трэба самім прыкладаць намаганні, прапаноўвацца. Так, акцёр — гэта продажная прафесія.

***— А як наогул вам бачыцца развіццё ў будучым антрэпрызы і дзяржаўных тэатраў?***

— Я лічу, што дзяржаўныя тэатры ў дадзенай эканамічнай сітуацыі бесперспектыўныя. Таму што яны загадзя стратныя. Чаму жыве антрэпрыза? Я ведаю, што мне трэба 2-3 чалавекі, што я магу ім плаціць, таму бяру. Навошта мне трымаць трупу з 80 чалавек. У дзяржаўных тэатрах заслужаныя артысты па 5-6 гадоў наогул не выходзяць на сцэну, адно што атрымліваюць зарплату. За чый кошт такая дабрачыннасць? Дзяржаўны тэатр – непадымная махіна. Жабрацкая дзяржава яе пацягнуць не можа. Міністэрства культуры і адпачынку, як кажуць, – самае беднае міністэрства.

***— Тым не менш у Еўропе разам з сотнямі прыватных ёсць і некалькі буйных дзяржаўных, так званых візітовак краіны, такіх, як Grand Opera?***

— Там няма забароны тэатрам падымаць кошты на квіткі. А ў нас з савецкіх часоў заведзена, што тэатр мусіць быць агульнадаступным. Гэта значыць, ёсць спажывецкі кошык, дзе прадугледжаная магчымасць схадзіць на спектакль. Вы можаце ўявіць такое ў Францыі? У Лондане, напрыклад, квіток на «ART», што ідзе ў нас, каштуе 50 фунтаў.

***— Уласных у рэпертуары Малога тэатра чамусьці толькі два спектаклі: згаданы вамі «ART» і «Камедыя». Астатняе – прывазное...***

— Пад дахам Малога тэатра былі такія нашы спектаклі, як «Моцарт і Сальеры», «Дрэйфус», «Скарпіён». Але з розных прычынаў яны развaліліся: ці то арыштоўваліся дэкарацыі і касцюмы, ці то акцёры раз'язджаліся. А то проста не вытрымалі канкурэнцыі. «Камедыя» дзесяць сезонаў запар збірае аншлагі, «ART» – трэці сезон. Цяпер страшна апускаць планку. Як можна паставіць нешта горшае? Пінігін зараз заняты ў іншых праектах, а альтэрнатывы яму тут, мне здаецца, няма. Запрашаць маскоўскага рэжысёра няма грошай. Яны на парадак даражэй, чымсьці той жа Пінігін, а ён не самы танны рэжысёр у Беларусі. Карацей, усё ўпіраецца ў грошы. А ідэяў шмат.

***— Ігар, Малы тэатр прывозіць гатовыя спектаклі выключна з Расіі. Вектар аднабаковы. А калі, напрыклад, украінцаў?***

— Я б з задавальненнем. Я дужа люблю гэтую культуру, тым больш сам украінец. Але баюся, што ў зале будзе сядзець 5 чалавек. Як раскруціць? Файных тэатраў там не так ужо і шмат. Ва Украіне тое самае, што і ў Беларусі: збольшага ходзяць у вяночках і сарафанах, спяваюць песні народныя.

***— Справа ўсё ж больш у мове ўкраінскай ці ў нераскручанасці, невядомасці тых, каго можна было б паказаць беларускаму гледачу?***

— Мовы я не баюся. Беларуская і ўкраінская мовы нашмат бліжэй паміж сабой, чымсьці беларуская і руская. Тут болей пытанне камерцыйнае, меркантыльнае: як прадаць? Ёсць адно што ўкраінскія музычныя гурты, якія б стопрацэнтова сабралі б зараз тысячную залу.

***— Што варта ставіць сёння, што пойдзе?***

— Што заўгодна. Абы з густам і майстэрствам. Ад тэлефоннага даведніка да класікі. Што зрабіў Пінігін з «Тутэйшымі» Купалы, з «Ідыліяй» Дуніна-Марцінкевіча, якія ў школе чытаюцца дужа цягамотна. Да гэтай пары аншлагі, класна! «Тутэйшых» забаранялі некалькі разоў, зачынялі, а іх зноў даюць. Адзінае, што я супраць так званага палітычнага тэатра, тэатра-газеты. Такога быць не павінна. Іншая справа, калі гэта завуаліравана. Як у нас з «Камедыяй». Хоць мы не памянялі ў ёй ніводнага слова, сама палітычная сітуацыя памянялася так, што людзі пачынаюць думаць, ці не хацелі яны тым альбо іншым нешта сказаць. Аднак першапачаткова закладаць гэта ў спектакль – пашлавата.

***— Вы можаце назваць сваю тройку лепшых беларускіх тэатраў?***

— У кожнага ёсць пара спектакляў, што ўяўляюць сабой годныя візітоўкі, астатняе – шалупінне...

***— Ну, тады якія асобныя спектаклі даспадобы?***

— Я тут вельмі суб'ектыўны. Мне падабаюцца пінігінскія спектаклі. Таксама «Бот і яго шкарпэтка» Таццяны Сулімавай на «Вольнай сцэне», у Купалаўскім – «Трыстан і Ізольда», «Крывавая Мэры» Аляксандра Гарцуева, спектакль хахляцкага рэжысёра Бакірава «Сон у летнюю ноч», «Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча».

***— А што, калі не сакрэт, рыхтуецца зараз у Малым тэатры?***

— «Гульня ў джын» Кабэрна. П'еса за сталом, на дваіх: будуць граць народны артыст Юрый Сідараў, акцёр тэатра імя Горкага і ягоная жонка заслужаная артыстка Беларусі Зінаіда Асмалоўская. Мяркуецца, што прэм'ера будзе напрыканцы снежня. Гэта, у прынцыпе, малакамерцыйная і больш камерная рэч. ■

**Гутарыў Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Угодкі Караткевіча ў «раскіданым гняздзе»

Ірына ТОЎСЦІК

«Раскіданым гняздом» назваў паэт Сяргей Грахоўскі Дом літаратараў, у якім 30 лістапада адбылася вечарына, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.

У гэты дзень многія майстры пяра прыйшлі ў Дом літаратараў (які ўсё радзей і радзей збірае пад сваім дахам творцаў), каб ушанаваць памяць Караткевіча, пісьменніка, які лекаваў наш народ ад комплексу непаўнацэннасці. Слушна заўважыў Адам Мальдзіс, што юбілей такога пісьменнніка мусіў адбыцца па меншай меры ў Оперным тэатры. Ён таксама адзначыў, што ўсе газеты ўважылі на 70-я ўгодкі Караткевіча, акрамя «Советской Белоруссии», што вызначае яе і культурніцкі ўзровень, і ступень маральнасці.

На вечарыну сабраліся сябры, знаёмыя і прыхільнікі творчасці Караткевіча, пра якога кожны прамаўляў з пяшчотай. Выказваліся Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Сяргей Грахоўскі, Генрых Далідовіч, Леанід Дранько-Майсюк, старшыня кінематаграфістаў Беларусі, старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі, акторка Таццяна Мархель і г.д. ■

# Асвечаны крыж скралі



Сяргей МАКСІМОВІЧ

Два дні прастаяў крыж на месцы знішчанага ў 1961 годзе па рашэнні партыйных уладаў касцёла ў г.Гродна ў скверы на плошчы Савецкай. Вернікі ўжо маліліся побач з ім і папрасілі ксяндза асвяціць яго. Але адзін з гарадскіх чыноўнікаў назваў усё «палітычнай акцыяй». Пасля гэтага крыж быў па-зладзейску скрадзены ў цёмны час сутак.

Вернікі, аднак, пачалі збірацца на тым месцы, каб маліцца на ружанцы. Яны ставяць часова мэталічны крыж і запальваюць свечкі. У нядзелю каля Фарнага касцёла побач статуі Хрыста пачаўся збор подпісаў з просьбай разабрацца, хто скраў крыж, і — дазволіць вярнуць яго назад. Зварот будзе накіраваны старшыні гарвыканкама. ■

# «Народны здабытак» вярнулі народу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ




Нягледзячы на прыезд у Мінск такой зоркі расійскага поп-року, як Земфіра, канцэртны зал «Мінск» увечары апошняга каляндарнага дня восені быў запоўнены. Моладзь пажадала ўжывую папрысутнічаць на прэзентацыі новага альбома панк-рок-гурта «Нейра-Дзюбель» «Народны здабытак». Ці, каб было прасцей зразумець, «The best», лепшыя песні запісаныя гуртом за ўсю гісторыю існавання. Спансіраваў прэзентацыю прадзюсерскі цэнтр «Малы тэатр». І шоу атрымалася.

У прынцыпе і паняцце шоу, і паняцце «Нейра-Дзюбель» цалкам у сябе ўбірае саліст і ідэйны натхняльнік гурта Аляксандр Кулінковіч. У гэты вечар Саша быў ва ўдары. Парваўшы кашулі на сабе і на другім салісце «дзюбеляў», ён не супакоіўся і пачаў паліваць сябе гарэлкай...

Акрамя такога перформанса, дзве з паловай гадзіны ў зале гучалі старыя і новыя лепшыя песні гурта. Ад «Резинового дома» да «Переехало комбайном». З трох новых хітоў гурта, якія ўпершыню прагучалі са сцэны КЗ «Мінск», выдзеліць можна хіба толькі песню «Забі амерыканца», якую Кулінковіч напісаў па-беларуску. Зала, праўда, вельмі хутка перайначыла словы прыпеву на «ну калі ласка, ну забі міліцыянта». «Ехали уроды на поминки» хутка перараслі ў «Ехали...на «Дажынкі». Зал адстаяў канцэрт ад першай і да апошняй хвіліны, нягледзячы на перманентныя спробы міліцыянтаў людзей пасадзіць. У сэнсе на крэслы.

Шкада, але прэзентавалася пакуль што толькі аўдыёкасета, а кампакт-дыск з'явіцца толькі ў пачатку 2001 года

Альбом атрымаўся выдатны. Для тых, хто любіць панк-рок і, у прыватнасці, «Нейра-Дзюбель» – гэта сапраўдны падарунак. Няма ніводнага хіта, які неяк выпадаў бы з агульнай канцэпцыі альбома. ■

# Лепшы сябра 12-гадовага джэнтльмена,

## або Як ТЮГ змагаўся са СНІДам

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

1 снежня ў рамках Дня барацьбы са СНІДам Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача вучыў 10-12-гадовых падлеткаў, як правільна засцерагацца ад гэтай небяспечнай хваробы. А Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД раздаваў выданне «СНІД-кур'ер», у якім дзеткам тлумачылі, што трэба карыстацца «лепшымі сябрамі джэнтльмена» – прэзерватывамі, а таксама распавядалі не вельмі прыстойныя гісторыі і анекдоты «пра гэта».

Усё пачалося з таго, што ў тэатр прыйшоў ліст з міністэрства культуры за подпісам намесніка міністра Валерыя Гедройца, а таксама аднаго з намеснікаў галоўнага санітарнага ўрача Беларусі. Міністэрства культуры «рэкамендавала» тэатру ў Дзень барацьбы са СНІДам паставіць «спектаклі блізкай тэматыкі», а таксама правесці з юнымі гледачамі размову пра небяспеку захварэць.

Вядома, чаго вартыя «рэкамендацыі» з міністэрства, якое фінансуе тэатр. Гэта значыць, што трэба выконваць «рэкамендацыю» як загад.

Кіраўніцтва тэатра апынулася ў даволі складанай сітуацыі. Справа ў тым, што ўвесь рэпертуар плануецца загадзя – за некалькі месяцаў. І якраз на 1 снежня быў запланаваны спектакль «Русалачка». Пажаданая аўдыторыя – 4-6 клас, гэта дзеці ва ўзросце 10-12 гадоў.

Пры тэатры існуе адмысловая псіхолага-педагагічная служба, у функцыі якой, у прыватнасці, уваходзіць распаўсюджанне квіткоў па школах. Так што праблема запаўнення залы была ўжо вырашаная. Цікава, ці ведалі бацькі, якія ў той дзень адпраўлялі сваіх дзетак у тэатр, з чым менавіта ім давядзецца сутыкнуцца?

Натуральна, што адмяняць спектакль ці замяняць яго якім-небудзь іншым было ўжо позна. Ды і які дзіцячы спектакль мае тэматыку, сходную з барацьбой з СНІДам? Так што «Русалачку» дзеці паглядзелі. І праслухалі перад спектаклем невялічкую лекцыю аб неабходнасці засцерагацца. Але, хутчэй за ўсё, не ацанілі. Бо пачнуць яны сваё палавое жыццё яшчэ не хутка.

Са свайго боку метадычную дапамогу аказаў і Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД – галоўны ініцыятар «імпрэзы». На ўваходзе дзецям раздавалася выданне цэнтра – газетка «СНІД-кур'ер», відавочна, разлічаная на больш сталую аўдыторыю, чым дзеці 10-12 гадоў. Выданне, як магло, агітавала супраць СНІДу, а для таго, каб чытачы не засумавалі, утрымлівала некалькі чуллівых гісторыяў «пра гэта» – з мараллю, а таксама анекдоты на апошняй старонцы.




Вось што дзеці з задавальненнем чыталі: «Вера же оделась, как дешевая проститутка, и отправилась в Париж. Вскоре после приезда она уже находилась в сопровождении троих мужчин...», «К моменту прибытия в Манилу на сексуальном счету Артура числилось пятьдесят женщин, и пресыщенность уже чувствовалась...»

Пэўную цікаўнасць прадстаўляў сабой і красворд на апошняй старонцы. Ягоныя складальнікі – метадысты РЦП СНІД – прапанавалі юным чытачам разгадаць, у прыватнасці, як называецца «влечение к обнажению половых органов» і «псевдоним врача, введшего термин «гомосексуализм». Практычна ўсе газеты разышліся на «ура». ■

ІНТЭРФАКС

# Стывен Кінг прыпыніў публікацыю ў інтэрнэце

Знакаміты пісьменнік Стывен Кінг, які стаў адным з першых вядомых аўтараў, які апублікаваў свой новы твор у інтэрнэце, вырашыў прыпыніць пачаты эксперымент. У чэрвені гэтага года С.Кінг апублікаваў на сваім сайце першую частку новай кнігі «Расліны», прадаставіўшы магчымасць любому карыстальніку інтэрнэта капіраваць яе на сваім камп'ютэры. Пры гэтым пісьменнік прапанаваў сваім прыхільнікам пералічваць на ягоны рахунак па адным долары за кожную новую частку, назваўшы сваю акцыю «самым страшэнным жахам для выдаўцоў». Адзінай умовай працягнення эксперыменту была аплата кожнай часткі мінімум 75% усіх, хто яе прачытаў. Па словах памочніцы С.Кінга Маршы дэ Філіпо, чытачы не выканалі ўмоваў гэтай здзелкі, бо толькі 46% «спампаваўшых» чацвёртую частку пералі грошы на рахунак пісьменніка. У той жа час, як перадае тэлерадыёкарпарацыя *BBC*, С.Кінг не намераны спыняць працу над гэтай кнігай. «Я ўпэўнены, шо яна паляжыць год-два, пакуль я працую над іншымі праектамі», – сказаў ён. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



СПОРТ

# Месца сустрэчы змяніць нельга

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Сярод зімовых відаў спорту для беларусаў ёсць два «каралі», – гэта, канешне, хакей (а як жа інакш) і біятлон. Поспехі беларусаў у гэтым надзвычай цікавым відзе спаборніцтваў агульнавядомыя. Золата чэмпіянатаў свету ў мужчынскіх каманднай гонцы і эстафеце. Шмат медалёў (на жаль, не залатых), здабытых нашымі біятланістамі ў індывідуальных гонках: Вадзімам Сашурыным, Аляксандрам Паповым (цяпер трэнер нацыянальнай каманды), Аляксеем Айдаравым, Святланай Парамыгінай. Але апошнім часам, трэба прызнаць, не ўсё ладзіцца ў нашых. Поспехі пакінулі беларусаў, і радасцю з'яўляецца нават уваход у дзесятку сярод мужчын і ў дваццатку сярод жанчын.

Гэты сезон апошні, калі можна зламаць падобныя традыцыі, бо праз год – зімовая алімпіяда.

І вось першы этап розыгрышу кубка свету па біятлоне, які праходзіў у італьянскім мястэчку Антхольц. Дарэчы, праходзіць ён, як і другі, і трэці этапы, мусіў у іншым месцы, але павальнае еўрапейскае бясснежжа вымусіла арганізатараў кубка свету ўсе тры этапы перанесці ў італьянскі Антхольц. І менавіта там амаль на ўвесь доўгі снежань пасяліліся ўсе лепшыя біятланісты свету.

І нашым гэта стала вялікім мінусам. Падрыхтаваныя да горных умоваў першых этапаў, беларускія біятланісты на раўніне правалiліся. Першыя індывідуальныя гонкі на 20 кіламетраў сярод мужчын і 15 сярод жанчын. Лепшае месца – трыццатае Вадзіма Сашурына. Крыху лепш – але ўсё роўна далёка ад ідэалу – прайшоў для нашых пятнічны спрынт. Там нядрэнна сябе паказалі той жа Вадзім Сашурын і Людміла Лысенка, увайшоўшыя ў другі дзесятак.

Суботняя жаночая эстафета не дадала нам радасці, бо восьмае месца, няхай сабе і маладзёжнага складу беларусак – мякка кажучы, не повад для гонару, а хутчэй наадварот.

Значна больш драматычна развіваліся падзеі ў мужчынскай эстафеце. Перамога, праўда, была здабытая камандай-сюрпрызам сезона зборнай Чэхіі з велізарнай перавагай. Амаль дзве мінуты адрыву (што па біятлонных мерках раўназначнае ліку 5:0 у футболе) ад другіх, украінцаў, і яшчэ больш ад немцаў. Нашы ж прыехалі пятымі, абагнаўшы вечных канкурэнтаў – рускіх, але шмат настраляўшы ў малако і з-за гэтага не здолеўшы ўвайсці ў тройку, што ў прынцыпе было цалкам рэальна.

Працяг зімовай эпапеі ўжо ў гэты ўік-энд. Месца сустрэчы змяніць нельга – італьянскі Антхольц. ■

# Пакінуў поле наш апошні воін?




**Аляксей СТАЎСКІ**

Трэці этап шахматнага першынства свету пад эгідай ФІДЭ пабачыў толькі аднаго беларускага прадстаўніка. Ім стаў Аляксей Аляксандраў, які з лікам паўтара на паўачка перамог у другім раўндзе моцнага армяніна Уладзіміра Акапяна. А другая, застаўшыся ў «жывых» пасля першараўндавай рубкі, беларуская шахматыстка Раіса Эйдэльсон нечакана, пасля нічыёй чорнымі фігурамі з югаслаўкай Марыч, саступіла ёй жа белымі і накіравалася ў Мінск рыхтавацца да сустрэчы новага года. Яна мусіць з асаблівым імпэтам, як і Аляксей Фёдараў, чакаць год 2001, бо гэты яны ў плане шахматаў яўна правалілі, будучы намінальнымі лідэрамі беларускіх шахматаў.

У трэцім раўндзе адзіны наш баец Аляксей Аляксандраў трапіў, згодна з жэрабем, на моцнага, хаця і немаладога расіяніна Яўгена Барэева. Калі, канешне, ты жадаеш дабівацца нейкіх поспехаў на шахматнай арэне ў будучым, то проста мусіш перамагаць такіх сапернікаў. Аднак у дзвюх партыях Аляксандраў без пытанняў саступіў расіяніну і вымушаны быў адправіцца да хаты. Як той казаў, «бяры шынель, пайшлі дамоў». Чэмпіянат свету застаўся без беларусаў. ■

# Надзея на беларускіх дзяўчат

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Праз тры дні жаночая зборная Беларусі па гандболе прыме ўдзел у фінальнай частцы спаборніцтваў чэмпіянату Еўропы ў Румыніі. Вось чаму гульня ў «турніры чатырох» у Кіеве за тыдзень да гэтай падзеі была вельмі зручнай для дружыны Леаніда Гуско. Да таго ж усе саперніцы ў ім – каманды Украіны, Македоніі і Югаславіі – таксама з'яўляюцца фіналістамі кантынентальнага першынства. А калі дадаць, што разам з нашымі дзяўчаткамі ў адной папярэдняй групе пачнуць у бліжэйшую пятніцу «шлях наверх» македонскія ды ўкраінскія гандбалісткі, «Кубак Турчына» ў Кіеве – быццам спасланыя з нябёсаў, тут табе і трэнінг добры, і цудоўная разведка перад боем.

Каманду Македоніі нашы абыгралі з перавагай у восем мячоў, а вось астатнія паядынкі завершылі з аднолькавым «-2», заняўшы ўвогуле толькі трэцяе месца.

Беларускі гандбол у апошні час знаходзіцца ў глыбокім занападзе, і выхад, дарэчы, упершыню ў гісторыі беларускага спорту ў фінал чэмпіянату Еўропы трэба разлічваць як значны поспех. У планах Гуско ёсць надзея трапіць на фінішы ў першую шасцёрку камандаў пры дванаццаці стартуючых. Гэта яшчэ далёка да медалёў, але ў існуючым на сённяшні дзень «гандбольным бязрыб'і» і так было б добра! ■

# Человек – животное политическое

**Сергей НИКОЛЮК**

**Хочется кому-то или не хочется, но, увы, для множества людей бытие по-прежнему определяет сознание. Только вот беда – мы не часто опираемся на него, принимая решения. Забавно наблюдать, как демократы уже более десяти лет разъясняют народу западные ценности. Они ему разъясняют, а он не понимает. И что интересно, народ при этом не безмолвствует, даже совершает поступки, дружно голосуя на выборах за кандидатов власти. Почему он так поступает или, говоря наукообразно, что его мотивирует? Или, может быть, любовь к власти у него в крови? Увы, это действительно так.**

«Человек – животное политическое», — любил повторять отец многих наук, в том числе и зоологии, Аристотель. По понятным причинам он не имел возможности смотреть по БТ программу «Резонанс». Точно не известно, ходил ли мыслитель на тамошние выборы или бойкотировал их, но он безусловно изучал поведение местного электората. Очевидно наша социальная активность и позволила ему задолго до Дарвина установить родство человека с обезьяной. Не удивительно, ведь основное занятие самцов в обезьяньей стае – борьба за власть. В результате образуется жесткая структура, в которой каждый занимает место в соответствии со своим рангом. Во главе этой «вертикали власти» стоит отнюдь не самый сильный. Наглость, беспринципность и коварство значат тут куда больше. Когда читаешь работы, описывающие все ухищрения, к которым прибегают самцы для того, чтобы изводить друг друга, становится тошно.

Захвативший власть самец получает неограниченное право отнимать пищу у сородичей, наказывать виновных и оплодотворять самок. Он все время должен демонстрировать свое превосходство, для чего порой достаточно просто подняться на возвышение. Вот почему строят троны и трибуны. Смотреть с высоты – значит быть выше рангом. Только тот, кто выше рангом, может похлопать нас по плечу. Подчиняясь, мы, подобно обезьянам, склоняем голову, сгибаемся в поклоне или падаем ниц, принимая позу самки во время спаривания. Большее унижения для самца трудно представить.

Но и для доминирующего самца жизнь не сахар. Власть могут отнять и тогда горе побежденному. Тем более, что методы борьбы за власть у обезьян очень разнообразны. Главное открытие на этом пути – создание союзов. Молодые самцы собираются в группы. Так легче побить «батьку» и других конкурентов. Но только тот, кто умеет держать нос по ветру, добирается до вершины. Поди угадай, в какую «партию» надо вступить, когда и куда переметнуться. Вот почему союзы самцов как правило недолговечны. Вечна только сама борьба за власть.

Со своей стороны власть придержащие пытаются «опереться на народ». Для чего, например, доминирующие макаки вербуют себе союзников, но не среди ближайших по рангу, а находящихся на самом дне общества, так называемых подонков. Стоит доминирующему самцу начать кого-нибудь наказывать, как находящиеся на самом низу пирамиды подонки с неизвестно откуда взявшейся энергией спешат ему на помощь.



Человек усовершенствовал этот метод. В отличие от макак властители систематически стали поощрять помощников. Так возникла самая страшная структура – иерарх в окружении подонков. Греки называли это охлократией (властью наихудших).

Специфическое поведение шестерок, пригретых доминирующим самцом, наблюдается не только у приматов. Молодые петухи давно стали любимцами у этологов (этология – наука, изучающая поведение животных в естественных условиях). Петухи так же образуют жесткую иерархию. Показателем ранга у них является высота гребня. Заклеивая гребень белым пластырем или «наращивая» его, ученые легко изменяют ранг, а следовательно, и поведение петухов. Поднявшиеся «из грязи в князи» намного опережают своих бывших начальников по желанию властвовать. Никто так не третирует сородичей, как прежние неудачники. Накопившиеся обиды – лучшее топливо для реализации инстинкта агрессии.

Подчиненные особи находятся в вечном страхе, что в конце концов приводит к стрессам и сокращению продолжительности жизни. Из этого положения есть удобный выход: страх легко переходит «в добровольную любовь» (Фрейд называл это замещением). Опора диктаторов на всенародную любовь — не выдумка подконтрольных диктаторам СМИ. Она присутствует в генах.

Человек – животное политическое. Политическое, значит живущее в полисе, в городе как в территориальном вместилище иерархии. Строительство демократического общества требует ежедневной упорной работы. Иерархии возникают сами собой. Начальные благие пожелания всеобщего равенства легко превращаются в рабство. Стоит только сделать первый практический шаг к светлому будущему, как сразу выясняется, что кто-то идет не в ногу. Как тут не подровнять ряды, не подтянуть отстающих, и ряды выравниваются.

А между тем «человечества сон золотой» давно реализован на земле. Достаточно просто посмотреть под ноги. Вот ползет по асфальту маленький житель коммунистического общества – черный муравей тетрамарус. Муравей – животное муравейниковое. Он не знает иерархий. У него нет подчиненных и начальников. Он не дерется с сородичами из-за «куска хлеба». Тем не менее он живет в социуме – муравейнике, где царит порядок и дисциплина. Так руководит им инстинкт, записанный в его генетическом коде (инстинкт – совокупность врожденных реакций (актов поведения) организма). Но у нас с вами другой код. Мы с детства сбиваемся в четко структурированные компании во дворе. Оказавшись в армии, организуем неуставные отношения. Потом всю оставшуюся жизнь играем в политику. Конечная цель этой игры одна – власть.

Демократия – хрупкая вещь. Она продукт культуры. За нее надо сознательно бороться. Победоносные выборы не завершают этой борьбы. За всеобщим ликованием обычно не замечают как

*«Сквозь общие радость и смех,*
*под музыку, песни и танцы*
*дерьмо поднимается вверх*
*и туго смыкается в панцырь»*

Это работают гены. Это под их руководством шестерки начинают собираться вокруг «сильной» личности. Разумеется, для всеобщего блага. ■

КНІГАРНЯ

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй збяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойныя для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13), працуе з 12 да 19. У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую



прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі. Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.







Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 923 Нумар падпісаны ў друк 4/12/2000 (18.00) Наклад – 9.940

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018